ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

№ 19(5201)
Чацвер,
15 лютага
2001 года

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

*Кошт у розніцу — 48 руб.*

Актуаліі

## Рэлігійны рэнесанс і духоўны вакуум

***Дэструктыўныя таталітарныя секты і культы, якія імкнуцца ў школу, іх высокая актыўнасць, а таксама пэўная папулярнасць у маладзёжным асяроддзі ствараюць у грамадстве праблемы. Трагічныя развязкі падобных захапленняў сведчаць аб неабароненасці людзей, і асабліва моладзі, ад такіх рэлігійных спакусаў. Гэтай праблеме на мінулым тыдні было прысвечана выязное пасяджэнне Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Разам з дэпутатамі ў рабоце камісіі прынялі ўдзел работнікі Міністэрства адукацыі і прадстаўнікі Экзархата на чале з Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам, патрыяршым экзархам Усяе Беларусі.***

Размова ішла аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон “Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь” у сферы ўзаемін царквы і школы, Царквы і адукацыі. Тэму дыскусіі яе ўдзельнікі падчас сустрэчы значна пашырылі і канкрэтызавалі да праблемы, сёння надзвычай актуальнай — інтэграцыі тэалогіі (багаслоўя) і рэлігіязнаўства ў сістэму свецкай адукацыі на Беларусі.

Рэлігійная актыўнасць насельніцтва павялічваецца. Сёння ўсе мы з’яўляемся сведкамі ўзрослай цікавасці адукаванага грамадства да рэлігіі з аднаго боку, падкрэсліў ва ўступным слове, адкрываючы пасяджэнне, старшыня камісіі Ігар Васільевіч Катляроў, а з другога — адначасова ў наяўнасці нізкі ўзровень рэлігійнай свядомасці як вынік атэістычнай адукацыі і выхавання ў папярэднія дзесяцігоддзі.

70 гадоў панавання атэістычнай ідэалогіі, сцвярджалі ўдзельнікі дыскусіі, пазбавілі чалавека і грамадства маральных крытэрыяў і стварылі рэальную пагрозу маральнага адзічэння, духоўнага крызісу. Адны каштоўнасці знішчаны, другія яшчэ не сфарміраваны. У часткі дзяцей няма аўтарытэтаў, для іх не існуе традыцый, яны не паважаюць старэйшых. Падае статус сям’і, павялічваецца колькасць дзяцей-сірот і сацыяльных сірот — сірот пры жывых бацьках. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску быў толькі адзін дзіцячы дом, а сёння яны ёсць у кожным раёне сталіцы. Маладзее злачыннасць. Маладзёжнае асяроддзе пашкоджана страшэннымі “вірусамі” наркаманіі і СНІДу. Тэлебачанне прапануе антыснідаўскія праграмы, якія за мяжой даўно забаронены, бо наносяць толькі шкоду. Словам, у краіне стварыўся глыбокі духоўны вакуум, які тэрмінова неабходна запоўніць. Чым? І як? Вось пытанне.

— І пра гэта патрэбна біць у званы, крычаць на ўсю моц! — занепакоена гаварыў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. — Грамадства, моладзь у небяспецы! “Ну, што ж, Царква?” — чуем мы ў свой адрас галасы. Але гэта не значыць, што сёння афіцыйная навука педагогіка не можа нічога зрабіць і не робіць. Яна можа і робіць. Паміж экзархатам і Міністэрствам адукацыі наладжана плённае супрацоўніцтва, існуе пагадненне, створана і працуе каардынацыйная камісія. Аднак гэтага сёння мала. І каб і надалей эфектыўна развіваць гэтае супрацоўніцтва паміж Царквой і школай (сістэмай адукацыі) неабходна распрацаваць і мець грунтоўную прававую базу.

Хрысціянскі светапогляд з’яўляецца магутным фактарам, які фарміруе грамадскую свядомасць. Сістэму адукацыі, лічыць Уладыка, неабходна вярнуць да абсалютных духоўных каштоўнасцяў.

Дзяржава, зацікаўленая ў сацыяльнай стабільнасці, у клопаце пра чалавека не можа быць праціўнікам рэлігійна-маральнага ідэалу, народжанага традыцыйнымі хрысціянскімі канфесіямі, падкрэсліў ён. Патрэбна ўдасканаліць і карэкціраваць заканадаўчую базу, якая быццам бы ўскосным чынам працягвае абараняць атэістычны накірунак. А гэта пэўным чынам ускладняе сітуацыю. На жаль, у распрацоўшчыкаў законапраектаў дагэтуль няма, на наш погляд, канчатковага разумення сутнасці рэлігійнай матывацыі дзейнасці людзей. Спавяданне імі сваіх рэлігійных перакананняў немагчыма спыніць ніякімі мерамі, у тым ліку забароннымі. У наш час рэлігійнага рэнесансу асабліва актуальна будаваць менавіта партнёрскія адносіны з традыцыйнымі для Беларусі канфесіямі.

Паступова з маральна-эмацыянальнага дыскусія была праведзена ў юрыдычны аспект.

Пазнаёміўшыся з праектам Закона “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь ”Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", які ў хуткім часе будзе абмяркоўвацца ў парламенце, прадстаўнікі духавенства лічаць, што ў ім не надаецца ніякай увагі рэлігійнай сістэме адукацыі і выхавання, яе быццам бы не існуе, што артыкул 1 главы 1 Закона можа ўключаць абмежаванні па рэалізацыі богаслужбовай дзейнасці ў сістэме дзяржаўнай адукацыі, але ён не павінен ствараць забароны на адукацыйную і выхаваўчую дзейнасць традыцыйных цэркваў. Асаблівым чынам павінна рэгламентавацца адукацыйная дзейнасць традыцыйных рэлігійных аб’яднанняў у недзяржаўнай сферы адукацыі. Тут патрабуецца распрацоўка юрыдычных прынцыпаў статусу традыцыйных і нетрадыцыйных цэркваў і канфесій.

На пасяджэнні прагучала думка, што фармулёўка аб забароне дзейнасці рэлігійных арганізацый побач з палітычнымі партыямі ў сістэме адукацыі не адпавядае духу часу, сфармулявана некарэктна.

Дзейнасць традыцыйных для нашай краіны цэркваў і канфесій, лічаць прадстаўнікі духавенства, неправамерна прыроўніваецца да дзейнасці палітычных партый і аб’яднанняў, што не адпавядае ісціне. Ядром палітычных партый і аб’яднанняў з’яўляецца палітычная ідэалогія, а царкоўных аб’яднанняў — веравызначая дактрына.

Была выказана заўвага, што тэрмін “традыцыйная канфесія” не нясе ў сабе разбуральнай сілы, а прынцып, з якім Царква можа і павінна супрацоўнічаць.

Праблема, якую абмяркоўвалі на пасяджэнні яе ўдзельнікі, выключна далікатная. Бо нават і сёння яшчэ раздаюцца галасы не пра тое, як зрабіць супрацоўніцтва паміж царквой і школай больш плённым, а пра тое, ці патрэбна яно ўвогуле.

На жаль, як сказаў намеснік дырэктара Нацыянальнага інстытута адукацыі Генадзь Мікалаевіч Пятроўскі, у Законе “Аб адукацыі”, які прыняты ў 1991 годзе, адбылася падмена паняццяў: мы ўпісалі ў Закон тэрмін “свецкі характар адукацыі”, прыраўняўшы яго да атэістычнага, сталі трактаваць “свецкасць” як антыклерыкальнасць, як атэізм па вызначэнні. Аднак з пункту гледжання Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь атэістычны светапогляд юрыдычна эквіваленты рэлігійнаму. У новым Законе аб адукацыі павінна быць закладзена сістэма двайной страхоўкі. Супрацоўніцтва паміж царквой і школай магчыма толькі на аснове пагаднення, якое будзе кантралявацца Саветам Міністраў. А гэта значыць, тут будзе наладжаны сур’ёзны дзяржаўны кантроль.

На разгляд дэпутатаў экзархатам прапанавана наступная фармулёўка ў рыхтуемы законапраект: **“У арганізацыях сістэмы адукацыі не дапускаецца стварэнне і дзейнасць палітычных партый, іншых грамадскіх аб’яднанняў, якія праследуюць палітычныя мэты, а таксама ананімная і іншая дзейнасць рэлігійных арганізацый, якая супярэчыць заканадаўству.**

**Арганізацыі сістэмы адукацыі ў пытаннях адукацыйнай, сацыяльна-педагагічнай і навуковай дзейнасці могуць узаемадзейнічаць з зарэгістраванымі рэлігійнымі арганізацыямі з улікам іх уплыву на фарміраванне духоўных, культурных і дзяржаўных традыцый беларускага народа, у парадку і на ўмовах, вызначаемых пагадненнем паміж Міністэрствам адукацыі і рэспубліканскім упраўленнем ці цэнтрам рэлігійнага аб’яднання, заключаемых ва ўстаноўленым парадку".**

Удзельнікі ңарады прыйшлі да высновы, што толькі сумеснымі намаганнямі царквы і дзяржавы можна ўнесці істотны ўклад у абнаўленне гуманітарных ведаў і выйсці на еўрапейскія рубяжы сучаснай гуманітарнай адукацыі.

**Святлана БЕНЬ.**

9 лютага Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка наведаў Дом міласэрнасці пры Праваслаўным прыходзе ў гонар Усіх Святых у Мінску.
НА ЗДЫМКУ: падчас наведвання Дома міласэрнасці.

Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА.

## Весткі з Халопеніцкага дзіцячага дома Валожынскага раёна

### Праблемныя курсы

Рашэннем вучэбна-метадычнага савета Мінскага абласнога ІПК на базе Валожынскай школы-інтэрната і Халопеніцкага дзіцячага дома пройдуць праблемныя курсы “Сучасныя падыходы да арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу ва ўмовах інтэрнацкай установы”. Амаль 90 педагогаў гэтых устаноў павысяць сваю кваліфікацыю. Сярод тых, хто будзе ажыццяўляць вучэбны працэс — вядомыя вучоныя, практыкі і метадысты: М.А.Крэмень, У.Т.Кабуш, В.Р.Сянько, Н.І.Кашкан, А.С.Шылава, А.Э.Цішчанка і іншыя.

### Адпачылі ў Італіі

17 дзяцей-сірот Халопеніцкага дзіцячага дома на працягу месяца адпачывалі і аздараўляліся ў Італіі, у сем’ях італьянскіх грамадзян. Адным з арганізатараў гэтай паездкі з’яўляецца Т.С.Макарэвіч, дырэктар дзіцячага дома. Тамара Сцяпанаўна была і кіраўніком групы дзяцей-сірот з Мінскай вобласці.

### Юныя артысты

У Халопеніцкім дзіцячым доме сталі традыцыйнымі святы фальклору, займальныя гульні “Што? Дзе? Калі?”, “Шчаслівы выпадак”, “Поле цудаў”, шоу-праграмы “Запрашаем на дыскатэку”, “Танцуюць літаратурныя героі”. Намеснік дырэктара Дзмітрый Паўлавіч Казлоў адзначае: “Добры настрой у дзяцей, радасць у іх вачах — лепшая ўзнагарода для нашых педагогаў і выхаванцаў”. А Аляксандра Аляксееўна Глінік — намеснік дырэктара па выхаванні, дадала: “Многія гады самадзейныя юныя артысты нашай установы радуюць сваімі талентамі не толькі гледачоў з Крупскага раёна, але і мінчукоў”.

### Са спадчынай у будучыню

Людміла Іванаўна Алешка, бібліятэкар Халопеніцкага дзіцячага дома, ладзіць значную работу па выхаванні дзяцей-сірот па народных традыцыях, займаецца выхаваннем сродкамі народнай педагогікі. Пошукавая работа, збор матэрыялаў пра Адама Багдановіча, вывучэнне літаратурнай спадчыны Крупшчыны, гісторыі і культуры Халопеніч — вось поле дзейнасці дзяцей-сірот. “І хоць мы вывучаем спадчыну не той мясціны, дзе нарадзіліся нашы выхаванцы, дзеці з цікавасцю вывучаюць даўніну, гісторыю Беларусі”, — расказвае Людміла Іванаўна.

### 50 гадоў у школе

Лідзія Дзмітрыеўна Цярахава — педагог з 50-гадовым педстажам. Усё жыццё яна выкладала ў дзяцей Халопеніцкага дзіцячага дома фізвыхаванне. Гэты мудры педагог добра ведае псіхалогію дзяцей-сірот, а таму ў яе цесны кантакт з дзятвой. Лідзія Дзмітрыеўна фарміруе ў дзяцей-сірот не толькі здаровы лад жыцця, нясе ім дабрыню, шчырасць, сардэчнасць. “Наша бабуля”, “наша добрая фея” — так ласкава называюць выхаванцы дзіцячага дома Цярахаву, зараз інструктара па фізічнай культуры. Дарэчы, муж Цярахавай шмат гадоў узначальваў дзіцячы дом у Халопенічах.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**метадыст аддзела інтэрнацкіх устаноў Мінскага абласнога ІПК.**

*ЗАЦВЕРДЖАНА*
*Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 08.02.2001 № 71*

## Палажэнне аб Рэспубліканскім савеце рэктараў вышэйшых навучальных устаноў

1. Рэспубліканскі савет рэктараў вышэйшых навучальных устаноў (далей — Савет) створаны для выпрацоўкі рэкамендацый па пытаннях вышэйшай адукацыі, удасканалення навучальна-выхаваўчага працэсу, развіцця навукі і паляпшэння матэрыяльна-тэхнічнай базы вышэйшай школы.

2. Савет у сваёй дзейнасці кіруецца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, іншымі законамі Рэспублікі Беларусь, прававымі актамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у тым ліку гэтым Палажэннем, іншымі актамі заканадаўства.

3. Асноўнымі задачамі Савета з’яўляюцца:

3.1. падрыхтоўка прапаноў па:

3.1.1. забеспячэнню эфектыўнага кіравання вышэйшай адукацыяй і навуковай дзейнасцю, якое ажыццяўляецца рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, удасканаленню дзяржаўнай палітыкі і яе рэалізацыі ў сферы вышэйшай адукацыі і навукі;

3.1.2. павышэнню эфектыўнасці выкарыстання матэрыяльных і фінансавых рэсурсаў у сферы вышэйшай адукацыі і навукі;

3.1.3. павышэнню якасці падрыхтоўкі спецыялістаў;

3.2. правядзенне актаў аналізу і экспертызы праектаў нарматыўных прававых актаў, у тым ліку адукацыйных стандартаў, міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь, якія рэгулююць дзейнасць вышэйшай школы і навукі;

3.3. распрацоўка і прадстаўленне рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання прапаноў па сацыяльнай абароне работнікаў сістэмы вышэйшай адукацыі;

3.4. унясенне ва ўстаноўленым парадку ў адпаведныя рэспубліканскія органы дзяржаўнага кіравання прапаноў аб узнагароджанні кіраўнікоў сістэмы вышэйшай адукацыі рэспублікі дзяржаўнымі ўзнагародамі;

3.5. удзел у разглядзе кандыдатур на пасады кіраўнікоў вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі, фарміраванні рэзерву на замяшчэнне пасад кіраўнікоў ВНУ;

3.6. умацаванне сувязяў ВНУ з навуковымі арганізацыямі, аб’яднаннямі прадпрымальнікаў па пытаннях падрыхтоўкі студэнтаў, забеспячэння занятасці выпускнікоў, укаранення навуковых дасягненняў у вытворчасць;

3.7. удзел у абмеркаванні размеркавання стыпендый, грантаў, надбавак Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь паміж вышэйшымі навучальнымі ўстановамі;

3.8. ажыццяўленне мэтанакіраванай дзейнасці па развіццю ўсебаковых сувязяў вышэйшай школы рэспублікі з замежнамі партнёрамі.

4. Для ажыццяўлення пастаўленых задач Савету прадастаўляецца права:

4.1. уносіць у рамках сваёй кампетэнцыі ва ўстаноўленым парадку прапановы на разгляд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў;

4.2. заслухоўваць на сваіх пасяджэннях рэктараў вышэйшых навучальных устаноў, паведамленні прадстаўнікоў міністэрстваў, іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў па пытаннях, якія адносяцца да кампетэнцыі Савета;

4.3. па матываванаму запыту атрымліваць ад міністэрстваў, іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў звесткі і даныя, якія маюць адносіны да пытанняў вышэйшай адукацыі і навукі;

4.4. ініцыіраваць і ўзгадняць ліцэнзаванне, рэарганізацыю і ліквідацыю ўстаноў вышэйшай адукацыі, пытанні іх назвы, змянення іх статусу, адкрыцця новых спецыяльнасцяў, у тым ліку ў адносінах да вышэйшых навучальных устаноў недзяржаўнай формы ўласнасці;

4.5. удзельнічаць у фарміраванні дзяржаўных, галіновых і міжвузаўскіх навукова-даследчых праграм;

4.6. уносіць прапановы па пераліку вакансій, якія аб’яўляюцца пры выбарах у Нацыянальную акадэмію навук Беларусі і ўдзельнічаць ва ўзгадненні гэтага пераліку;

4.7. ствараць часовыя экспертныя і рабочыя групы, творчыя калектывы з прыцягненнем спецыялістаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, іншых арганізацый і вучоных рэспублікі (з іх згоды) для правядзення экспертызы і падрыхтоўкі прапаноў па напрамках дзейнасці Савета;

4.8. праводзіць сумесна з міністэрствамі, іншымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, абласнымі (Мінскім гарадскім) выканаўчымі камітэтамі выязныя пасяджэнні Савета, прысвечаныя разгляду пытанняў развіцця вышэйшай адукацыі і навукі ў рэгіёнах рэспублікі;

4.9. праводзіць работу па прапагандзе дасягненняў вышэйшай школы рэспублікі за мяжой;

4.10. праводзіць семінары, сімпозіумы, канферэнцыі па праблемах развіцця вышэйшай школы.

5. Савет фарміруецца з рэктараў вышэйшых навучальных устаноў, арганізацый паслядыпломнай адукацыі на агульным сходзе кіраўнікоў вышэйшых навучальных устаноў і арганізацый паслядыпломнай адукацыі.

Работай Савета кіруе старшыня, які выбіраецца з ліку рэктараў ВНУ, а ў яго адсутнасць — намеснік. Старшыня Савета і яго намеснік выбіраюцца на пасяджэнні Савета тэрмінам на пяць гадоў тайным галасаваннем. Кандыдатура лічыцца выбранай, калі за яе прагаласавала больш як палова членаў Савета, якія прысутнічаюць на пасяджэнні.

Для аператыўнага кіравання работай Савета ствараюцца прэзідыум Савета і камісіі па асноўных напрамках дзейнасці Савета. Састаў прэзідыума і камісій, функцыі і парадак іх дзейнасці вызначаюцца Саветам.

Для больш поўнага і ўсебаковага абмеркавання праблем функцыянавання і развіцця вышэйшай школы на пасяджэнні Савета могуць запрашацца (з іх згоды) кіруючыя работнікі рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, іншых арганізацый.

Савет ажыццяўляе сваю дзейнасць у адпаведнасці з планам работы, які зацвярджаецца на пасяджэнні Савета.

Савет праводзіць свае пасяджэнні па меры неабходнасці, але не радзей чым два разы ў год. Савет правамоцны прымаць рашэнні пры ўмове прысутнасці на пасяджэнні не менш за дзве трэці яго саставу. Рашэнні Савета прымаюцца простай большасцю галасоў прысутных. У выпадку роўнасці галасоў прынятым лічыцца рашэнне, за якое прагаласаваў старшынствуючы. Рашэнні Савета афармляюцца пратаколам, які даводзіцца да зацікаўлёных.

Арганізацыя дзейнасці Савета ў частцы, не прадугледжанай гэтым Палажэннем, вызначаецца рэгламентам, які зацвярджаецца Саветам.

Прадстаўнікі Савета па прадстаўленню прэзідыума Савета могуць уваходзіць у састаў калегій Міністэрства адукацыі, Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях, іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, а таксама прэзідыумаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Акадэміі аграрных навук Рэспублікі Беларусь.

Старшыня Савета перыядычна інфармуе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб стане спраў у вышэйшай школе і навуковай сферы рэспублікі.

6. Арганізацыйнае, інфармацыйнае і матэрыяльнае забеспячэнне дзейнасці Савета, уключаючы вядзенне справаводства, ажыццяўляецца ВНУ, рэктар якой выбраны старшынёй Савета.

*Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 71*

### Аб Рэспубліканскім савеце рэктараў вышэйшых навучальных устаноў

У мэтах аказання комплекснай падтрымкі развіццю вышэйшай школы ў Рэспубліцы Беларусь **пастанаўляю**:

1. Стварыць Рэспубліканскі савет рэктараў вышэйшых навучальных устаноў.
2. Зацвердзіць прыкладаемае Палажэнне аб Рэспубліканскім савеце рэктараў вышэйшых навучальных устаноў.
3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у трохмесячны тэрмін забяспечыць прывядзенне актаў заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Указам.
4. Мясцовым выканаўчым і распарадчым органам узаемадзейнічаць у рабоце з Рэспубліканскім саветам рэктараў вышэйшых навучальных устаноў і аказваць садзейнічанне вышэйшым навучальным установам ва ўмацаванні іх матэрыяльна-тэхнічнай базы.
5. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**

*8 лютага 2001 г., г.Мінск.*

## Надзеі юных коннікаў

***Вось ужо чацвёрты год пайшоў як дзейнічае дзіцячая секцыя конна-спартыўнай школы пры калгасе “Прагрэс” Гродзенскага раёна. Займаюцца ў ёй дваццаць чатыры падлеткі. Ёсць сярод іх і дзяўчынкі. Як сказаў іх трэнер Павел Мікалаевіч Савіцкі, амаль усе яны ўжо ўдзельнічаюць у розных спаборніцтвах, маюць спартыўныя разрады. У 1999 годзе яны выйгралі каманднае першынство турніру “Надзея” ў Мінску, а мінулай восенню Юля Дубко нават выйграла асабістае першынство на міжнародным дзіцячым турніры.***

У падлеткаў тут добрая перспектыва. Яны могуць і пасля заканчэння школы звязаць свой далейшы лёс са спортам: застацца ў гаспадарцы і ўдзельнічаць у розных спаборніцтвах і турнірах, а каму пашанцуе больш, той трапіць і ў зборную каманду краіны.

У наступным годзе тут будзе здадзены крыты манеж (другі ў Беларусі па памеры), што дасць магчымасць праводзіць трэніроўкі незалежна ад надвор’я.

НА ЗДЫМКАХ: заняткі па верхавой яздзе; Павел Мікалаевіч Савіцкі з групай юных коннікаў.

**Юрый БОНДАРАЎ.**



### Удакладненне

У пачатку матэрыяла “Лакаматыў інтэграцыйных працэсаў”, змешчанага ў “НГ” ад 10 лютага, дапушчана недакладнасць. Назва Пагаднення, падпісанага міністрамі адукацыі Беларусі і Расіі — “Аб умовах заснавання і дзеяння Беларуска-Расійскага універсітэта”.

